ПУЛЬС

## Увага, дзеці! Увага, даішнікі!

*З 25 жніўня па 5 верасня ў Беларусі праходзіць традыцыйная прафілактычная аперацыя "Увага! Дзеці ідуць у школу!".*

Як паведаміў выканаўца абавязкаў начальніка ўпраўлення Дзяржаўтаінспекцыі Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі палкоўнік Аркадзь Цэхавы, у перыяд правядзення аперацыі кіроўцам усіх транспартных сродкаў рэкамендавана ў светлы час сутак рухацца з уключаным блізкім святлом фар, надаваць асаблівую ўвагу дзецям-пешаходам, а таксама праяўляць пільнасць на дарогах каля школ, дашкольных установ і дзіцячых гульнявых пляцовак.

Маршруты патрулявання дарожна-патрульнай службы будуць максімальна набліжаны да месцаў размяшчэння дзіцячых установ.

Зараз даследуецца стан святлафораў, пакрыцця праезнай часткі, пешаходных агароджаў, а таксама правяраецца наяўнасць і стан дарожных знакаў, разметкі.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Чарговая серыя: «Конкурс працягнуты»

*Конкурс на лепшы сцэнарый тэлевізійнага серыяла аб жыцці беларускай моладзі, які праводзяць Нацыянальная дзяржтэлерадыёкампанія, Міністэрства культуры Беларусі і Нацыянальная кінастудыя "Беларусьфільм", працягнуты да верасня.*

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе Белтэлерадыёкампаніі, першапачаткова конкурс, аб'яўлены 26 студзеня гэтага года, планавалася завяршыць у маі. Аднак у сувязі з павышанай цікавасцю грамадскасці аргкамітэт прыняў рашэнне аб яго працягу: спачатку — да 31 ліпеня, і вось цяпер — да верасня.

Мерапрыемства такога кшталту праводзіцца ў Беларусі ўпершыню. На адрас Белтэлерадыёкампаніі паступіла 113 работ з усіх куткоў краіны. З іх да ўдзелу ў фінальнай частцы дапушчана 60 сцэнарыяў.

Пры адборы конкурсных работ прыярытэт аддаецца сюжэтам, якія вызначаюцца высокім мастацкім узроўнем. Да ўдзелу ў конкурсе не дапускаюцца творы, якія прапагандуюць насілле, наркаманію, крымінальны лад жыцця, індывідуальныя псіхічныя адхіленні і агрэсіўнае непрыняцце грамадства.

## Іх засталося толькі дзевяць

*Вызначаны фіналісты нацыянальнага дзіцячага конкурсу "Песня для Еўрабачання".*

Прафесійнае журы падвяло вынікі адборачнага тура гэтага конкурсу і выбрала 9 песень, якія будуць выкананы ў фінальным гала-канцэрце. З іх ліку шляхам тэлефоннага галасавання і галасавання журы будзе выбрана песня-пераможца, якая возьме ўдзел у дзіцячым конкурсе песні "Еўрабачанне-2004". Ён пройдзе ў нарвежскім Лілехамеры ў лістападзе.

Да ўдзелу ў конкурсе дапускаўся аўтар песні ва ўзросце 8-15 гадоў, які з'яўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь або жыве ў ёй не менш за два з паловай гады.

Выкананне песні павінна доўжыцца не больш за 2 хвіліны 45 секунд і не менш за 2 хвіліны 30 секунд. Аўтар песні бярэ ўдзел у яе выкананні на сцэне ў якасці вакаліста або інструменталіста. Песня выконваецца ўжывую на сцэне ў суправаджэнні музыкі, запісанай без вакалаў любога віду або нейкіх вакальных імітацый.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## Гэта вам не стрэмка ў пальцы

*Чарговая ўспышка трыхінелёзу зафіксавана ў Брэсцкай вобласці.*

Як паведаміла БелаПАН загадчык эпідэміялагічнага аддзела абласнога цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя Ала Корзан, у вёсцы Кароцічы Столінскага раёна пасля ўжывання ў ежу стравы з дзікага кабана 10 мясцовым жыхарам быў пастаўлены дыягназ трыхінелёз.

Як расказаў гаспадар, на святочным стале якога з'явілася небяспечнае мяса, гэты прадукт ён атрымаў ад знаёмых з Гомельскай вобласці. Вяпрук быў застрэлены падчас сезоннага палявання ў студзені гэтага года, яго мяса захоўвалася ў маразільніку, і толькі зараз жыхар Кароцічаў вырашыў пачаставаць ім гасцей.

Праз некаторы час у 10 гасцей узнялася тэмпература, ацёкі, сып, мышачны боль. Чатырох чалавек шпіталізавалі, астатнія пройдуць неабходны курс лячэння.

Паводле слоў А.Корзун, сёлета ад трыхінелёзу ўжо пацярпелі 25 чалавек ў Ганцавіцкім раёне. Яны таксама ўжывалі ў ежу мяса хворага вепрука.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## Скралі і спалілі

*Спрабуючы схаваць сляды крадзяжу, злачынцы спалілі мінулай ноччу краму ў вёсцы Азёры Бабруйскага раёна Магілёўскай вобласці.*

Як паведаміла прэс-служба МНС, хутчэй за ўсё прычынай пажару стаў падпал. Ён быў учынены невядомымі злачынцамі з мэтай схаваць крадзеж, сведчаннем якога сталі раскіданыя за некалькі метраў ад згарэлай пабудовы прадукты харчавання, а таксама знойдзеныя свежыя сляды ад шын аўтамабіля.

У выніку пажару знішчаны дах і перакрыцці будынка, харчовыя і гаспадарчыя тавары на суму каля 2 мільёнаў рублёў.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

*У электрычцы...*

Фота Яўгена КОКТЫША.

## Адчыніўся першы салон французскай бялізны

У Мінску адбылося ўрачыстае адкрыццё першага ў Беларусі салона французскай элітнай пасцельнай бялізны "Yves Delorme" аднайменнай гандлёвай маркі.

Генеральны дырэктар кампаніі "Лантрэ" Андрэй Цялегін удакладніў, што рашэнне аб адкрыцці салона было прынята год таму пасля наведвання выставы ў Францыі, дзе "ўзровень вытанчанасці, прэзентабельнасці, камфорту гэтай гандлёвай маркі быў несумненны". "А фірма "Лантрэ" ў любой таварнай групе шукае нешта асаблівае, чаго не маюць канкурэнты", — падкрэсліў ён.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## Віно для «Залатога грыфона»

Аказваецца, беларускія журавіны могуць паспрачацца з крымскім вінаградам.

З дзвюма сярэбранымі медалямі вярнуліся з Ялты прадстаўнікі Талачынскага вінзавода. На самым прэстыжным у СНД міжнародным конкурсе вінаробаў "Залаты грыфон" беларусы дабіліся высокай ацэнкі сваіх він "Журавіннае" і "Юбілейнае", якія робяцца з натуральнай лясной сыравіны, сабранай на балотах Талачыншчыны і суседніх раёнаў.

Сёння талачынскія майстры моцных напояў заняты стварэннем новага ягаднага віна з чорных парэчак, якіх ужо закуплена ў насельніцтва 200 тон.

Адначасова на прадпрыемстве не адмаўляюцца і ад класічнай прадукцыі, даўно прызнанай ва ўсім свеце. На заводзе распачаты мантаж сучаснай італьянскай лініі для разліву сухіх вінаградных він з імпартнай сыравіны.

Аднак, рыхтуючыся да чарговага конкурсу ў Ялце і спадзеючыся заваяваць там ужо не сярэбраную, а залатую ўзнагароду, талачынцы мяркуюць зрабіць стаўку толькі на сваё, мясцовае віно з непаўторным смакам беларускіх ягад.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

# Белорусская головоломка

## Стоит ли доверять нашей статистике?

**Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук**

Темпы развития белорусской экономики за первые полгода, как нам подают органы статистики, радуют. По оценке Минстата, ВВП в так называемых сопоставимых ценах был выше, чем в первом полугодии прошлого года на 10,3% при прогнозе 7%, увеличение выпуска продукции промышленности составило 14,4%.

Вроде бы прогресс налицо. Однако специалисты подметили в данных статистики одну "неувязочку", которая, собственно, заметна и невооруженным глазом. Если при росте ВВП за тот же период 2002 года в 4,7% рост грузооборота транспорта составил 10,2%, в 2003 году, соответственно 5,1 и 12,5%, то за первое полугодие текущего года приросту ВВП в 10,3% соответствует только 4% прироста грузооборота транспорта. Ведь все произведенное на предприятиях должно быть доставлено к потребителю. Значит, можно предположить, что большая часть продукции осела на складах предприятий, и без того увеличив наши огромные запасы, а другая часть, надо полагать, в перевозке не нуждалась, так как сделана из "воздуха".

Сомнения по поводу бурного роста нашего ВВП постоянно выражают эксперты МВФ и Всемирного банка, отмечая, что белорусская методика подсчета ВВП существенно отличается от международной: у них засчитывается в ВВП все, что реализовано, у нас — все, что произведено, включая те же остатки готовой продукции на складах, дебиторскую задолженность и т.д.

Какой же статистике можно доверять в большей мере? А той, какую реально ощущаешь в своей повседневной жизни. Обменный курс доллара практически с начала года "стоит". Значит, твердой валюты в стране прибавилось, экспорт существенно возрос, о чем и свидетельствует статистика. В целом он увеличился на 31,6% по сравнению с аналогичным периодом прошлого года. Но его увеличение объясняется в первую очередь внешними факторами, а именно, беспрецедентным ростом мировых цен на нефть. Соответственно возросли и цены на экспортируемые белорусские нефтепродукты. За январь—май текущего года их экспорт увеличился на 7%. Россия, получая шальные нефтедоллары, увеличила импорт товаров из Беларуси на 37,1%, хотя в целом сальдо нашего торгового баланса остается отрицательным.

Насколько объективен рост реальной зарплаты, каждый может судить по своему личному и семейному бюджету. С одной стороны, летом легче стало с оплатой услуг ЖКХ: за отопление не платим. Как правило, в летние месяцы меньше и инфляция. При "стоячем" долларе проще государству повышать зарплату в его эквиваленте. С другой стороны, цены все равно растут, в том числе и в долларовом эквиваленте. А как повышать зарплату работникам убыточных предприятий, доля которых в экономике 35,9%? Делая их еще более убыточными? К тому же износ основных фондов промышленности, естественно, как был, так и остается запредельным. Доля иностранных инвестиций остается крайне незначительной.

Для выведения экономических показателей на нужные рубежи в Беларуси вовсю используются внутренние факторы, прежде всего административные рычаги, действие которых зачастую не согласуется с требованиями рыночного развития. К примеру, министерства, органы исполнительной власти на местах получили планы-графики роста зарплаты до конца года, чтобы выйти на заветный рубеж 195 долларов в среднем по стране. Директива получена — попробуй не выполни. При обменном курсе доллара к концу года 2200 рублей средняя зарплата должна быть в декабре не менее 440 тыс. рублей. Пенсии, соответственно, должны достичь 176 тыс. рублей. Против роста ВВП показатели роста средней зарплаты и пенсий удваиваются и утраиваются. Пропорции, скажем так, антирыночные. Ломай голову, как это обеспечить. Ведь в итоге надо выдать на-гора и высокий рост зарплаты, и высокую занятость, и умеренную инфляцию, и снижение себестоимости, и увеличение рентабельности, и максимальные темпы экономического роста. Ни одна страна с развитой рыночной экономикой сразу и одновременно такие задачи решить не могла. Что, например, гласят макроэкономические закономерности рынка, проповедуемые западными экономическими школами: либо высокая занятость, но тогда и высокая инфляция. Либо, наоборот, низкая инфляция, но высокая безработица, что мы и наблюдаем в западноевропейских странах.

Однако, не скрою, при всех постоянно возникающих моих сомнениях, все больше крепнет убеждение, что все-таки поставленные главою задачи будут выполнены. Иного не дано. На то она и есть уже сложившаяся белорусская модель развития социально ориентированной рыночной экономики с ее девизом "Даешь подъем!". И пусть кто только попробует не дать его.

РАКУРС

# Тарелка с фруктами

**Две женщины, сложив руки, сидят за кухонным столом. В комнате полумрак, рассеиваемый лишь светом фонаря за окном. В квартире тишина. Телевизор не работает, давно уже сломался. Молчит радио, что-то недавно испортилось в приемнике.**

Перед ними стоит тарелка с фруктами. Соседка принесла банан и два апельсина. Но они к плодам не притрагиваются, только смотрят и молчат.

Тишина и оцепенение окутали двухкомнатную квартиру в центре Минска и ее обитательниц. Когда-то жизнь здесь бурлила ключом. Кормилец семьи, начальник на железной дороге, получил эту квартиру, когда город еще был в развалинах. С последнего этажа дома был виден вокзал. Горячей воды тогда не было, в ванной под титаном раскладывали дрова и таким образом грели воду. Несмотря на некоторые неудобства, семья в квартире с парадной лестницей казалась устроенной и благополучной.

Сегодня от былого благополучия не осталось и следа. Простенькая, сорокалетней давности мебель сиротливо стоит по углам. Все, что осталось от прошлого времени, обветшало и обесцветилось. Жизнь хозяев стала такой же бесцветной.

Женщины опустили руки, отчаявшись от ударов судьбы. За последний год они потеряли восьмерых родственников, ушедших один за другим. Их смерть добила кормильца семьи. Когда он умер, в доме не было денег, чтобы заплатить за ритуальные услуги. Дочь сама обмывала отца. С тех пор что-то случилось с ее головой. Заболела, отрешилась от внешнего мира, ничего ее не волнует. Только редкие волосы и неестественная припухлость портят ее редкую красоту.

Мать содержит дочь на свою пенсию, от которой остаются крохи после уплаты за квартиру. Добиться толку в поликлинике старая женщина не может — то нет талончиков, то врачи ничего не знают. Да у женщин и сил нет ходить по кабинетам. Вот так и сидят сложа руки и смотрят на тарелку с фруктами.

Если бы такой случай был единичным, можно было бы списать горести этих людей на них самих. Но, к сожалению, подобных картин обнищания немало. Прежняя номенклатура и старая интеллигенция, когда-то цементировавшие советское общество, не выдерживают натиска бушующих перемен, слабеют, стареют и опускают руки.

Многие пока живут в прежних квартирах, в родовых гнездах, где не только родились их дети и внуки, но и собирались видные деятели культуры. Не в силах оплачивать апартаменты из скудных пенсий и зарплат, они продают квартиры или сдают их иностранцам. Некоторые лишаются жилплощади без какой-либо компенсации, как, например, наследники Янки Купалы. Дом, где жили его вдова и сестра, имевшие всего две комнаты в специально построенном для знаменитого белорусского поэта особняке и где они на кухне, так как жилые комнаты не отапливались, принимали гостей из других республик, сровняли с землей. На этом месте теперь строят элитную пятиэтажку с подземными гаражами. Племянница поэта, восьмидесятилетняя женщина, живущая над магазином "Каравай", что на площади Победы, мечтает только, чтобы в магазине поменяли входную дверь либо поставили на ней пружину. От постоянных ударов массивной дубовой двери у нее раскалывается голова.

Удары по голове — от двери магазина или других жизненных обстоятельств — невыносимы для большинства представителей прежней номенклатуры и интеллигенции. За последние десять лет так опустошились их родовые гнезда, что прежней элиты скоро не останется. Именитые руководители и просветители уходят в мир иной, их дети, неспособные добывать хлеб с маслом нахальством и упорством, живут по инерции, растрачивая достояние родителей. Их творческий потенциал обществу неинтересен, интеллигентность нынче не в цене. Прежний тонкий культурный слой, защищавший общество от разложения, испаряется. Новые хозяева жизни, забравшиеся на вершины власти и бизнеса, с высокими ценностями имеют отдаленное знакомство. История возвращается на круги своя. Как в двадцатые годы прошлого столетия, когда лучшие умы, испугавшись пришествия хама, эмигрировали или превратились в наемных работников, так и сегодня носители творческого потенциала вынуждены бороться за выживание, а не за приумножение своих бесценных способностей.

И тем не менее от прежней элиты сегодня многое зависит. Наделенные человеческим достоинством, гордостью, честью и знаниями, эти люди были и остаются поводырями для остальных, ведомых и внушаемых. Манипуляция власти общественным сознанием — всего лишь видимость покорности массы. Раньше или позже этот мираж испаряется. Как двадцать лет назад советское телевидение говорило одно, а люди понимали совсем другое, так и сегодня под воздействием неподцензурного мнения элиты может происходить то же самое. До тех пор пока не отлажены демократические институты и традиции, интеллигенция остается совестью нации, ее светочем и ангелом хранителем.

Как ни печальна ныне судьба многих представителей этого сословия, как ни грустно видеть двух женщин, сложивших руки возле кухонного стола, пессимизм не должен быть доминантой в общественных настроениях. Не в такие переплеты попадали другие народы в иные времена и все же они выкарабкивались. Выкарабкаются и белорусы. Тарелка с фруктами станет не только видением, но и обыденной реальностью для каждого из них.

**Людмила ГРЯЗНОВА, кандидат экономических наук, заместитель председателя Объединенной гражданской партии.**

## «Другі фронт» прамысловага волата

*Як і ў часы СССР, цяперашняя беларуская вёска не можа абысціся без дапамогі гараджан. Не адной толькі вапнавай мукой, патрэбнай хлебаробам для раскіслення глебы, падтрымлівае сельскую гаспадарку Віцебшчыны славутае прадпрыемства "Даламіт". Прадстаўнікоў гэтага прамысловага волата, пераўтворанага ў акцыянернае таварыства, можна сустрэць цяпер на палетках многіх сельгаскааператываў, куды даламітаўцы накіроўваюцца, так бы мовіць, у дабравольна-прымусовым парадку.*

У населеных пунктах Бабініцкага сельсавета Віцебскага раёна добра ведаюць грузчыка з "Даламіта" Пятра Сітнікава, які, маючы пасведчанне механізатара, абслугоўвае прыватныя палеткі вяскоўцаў на збожжаўборачным камбайне.

Цэлы месяц шчыраваў у падшэфным СПК "Данукалава" Лёзненскага раёна даламітаўскі шафёр Уладзімір Новікаў. Вахтавым метадам, замяняючы адзін аднаго, адпрацавалі па адным месяцы ў гэтай гаспадарцы два электрыкі, два слесары, токар і зваршчык. У полі, у майстэрні, на таку яны падтрымлівалі тэхніку ў належным стане.

"Данукалава" атрымала ад віцебскіх шэфаў магутны трактар К-700 і аўтамашыну "МАЗ".

Рамонта-механічны цэх "Даламіта" аднавіў для гаспадаркі глебаапрацоўчую тэхніку, якая неўзабаве спатрэбіцца для ўздыму зябліва і сяўбы азімых, а электрацэх пераматаў згарэлыя электрарухавікі.

Адпраўляючы сваіх рабочых у вёскі, адміністрацыя "Даламіта" клапоціцца аб іх настроі, здароўі і дабрабыце. Для шэфаў арганізавана чатырохразовае харчаванне, ім захоўваецца зарплата на асноўным месцы працы.

Усё гэта патрабуе немалых фінансавых выдаткаў і адцягвае рабочых ад вытворчасці, але даламітаўцы тым не менш не забываюць і сваю галоўную задачу — выпуск вапнавай мукі для павышэння ўрадлівасці глебы. За 8 сёлетніх месяцаў прадпрыемства адгрузіла сельскім спажыўцам Беларусі 1170 тысяч тон даламітавай мукі — на 24% больш, чым за адпаведны перыяд мінулага года.

Дарэчы, прыватныя збожжавыя палеткі, дзе працуе камбайнёр і грузчык "Даламіта" Пётр Сітнікаў, не нашмат саступаюць па ўраджайнасці дзяржаўным і кааператыўным нівам. У сярэднім прысядзібны гектар на Віцебшчыне дае 24 цэнтнеры, а ў Дубровенскім раёне аднаасобнікі збіраюць па 30 і больш цэнтнераў збожжа з гектара".

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

ПРОТЕСТ

*Председателю окружной комиссии по выборам депутатов Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь 3-го созыва по Хойникскому избирательному округу № 49* ***Н.В.ВАСИЛЕВСКОЙ***

*Копии:*

*Председателю Центральной комиссии Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов* ***Л.М.ЕРМОШИНОЙ***

*Председателю Брагинского районного исполнительного комитета* ***А.П.ЯТЧЕНКО***

*Главному редактору газеты "Народная воля"* ***И.П.СЕРЕДИЧУ***

*Руководителю Офиса ОБСЕ в г.Минске г-ну* ***ХАЙКЕНУ***

*Председателю Объединенной гражданской партии* ***А.В.ЛЕБЕДЬКО.***

# Образумьте чиновников!

Обратиться к Вам таким способом вынуждает ситуация, которая складывается при реализации членами моей инициативной группы предоставленного им законного права по сбору подписей избирателей в поддержку моей кандидатуры.

9 августа текущего года окружная избирательная комиссия Хойникского избирательного округа № 49 зарегистрировала инициативную группу в количестве 57 человек по сбору подписей избирателей в поддержку моей кандидатуры по выдвижению кандидатом в депутаты Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь, о чем им были выданы соответствующие удостоверения (регистрационный № 1).

С момента выдачи удостоверений в Брагинском, Лоевском, Хойникском и части Речицкого районов Гомельской области члены инициативной группы начали активно реализовывать предоставленное им право по сбору подписей избирателей.

По данным руководителя инициативной группы мою кандидатуру уже поддержало более 1000 избирателей, проживающих на территории избирательного округа.

К сожалению, активность моей инициативной группы не осталась без внимания со стороны должностных лиц Брагинского райисполкома, которые с использованием своих служебных полномочий начали оказывать давление, выражаемое в прямом и косвенном запугивании отдельных ее членов.

Так, члену моей инициативной группы Целуйко Н.М. позвонили домой по телефону из Брагинского райисполкома и предложили прекратить сбор подписей избирателей в мою поддержку, в противном случае ей будет отказано в обещанном трудоустройстве. Со слов звонившего, у председателя райисполкома на столе лежит список всех членов моей инициативной группы, проживающих на территории Брагинского района, их деятельности в инициативной группе будет дана соответствующая оценка со стороны райисполкома.

После указанного звонка Целуйко Н.М. была вынуждена сдать удостоверение члена инициативной группы по сбору подписей избирателей в поддержку моей кандидатуры.

На другого члена инициативной группы Хоменко Н.В. стали оказывать косвенное давление посредством влияния на его непосредственного начальника Никитенко Н.В. по месту работы, которой при встрече на улице работник Брагинского райисполкома Гануш В.И. предложил явиться к председателю райсовета Романюк П.К. и написать объяснительную по факту вхождения ее подчиненной в состав моей инициативной группы.

Являясь специалистом в области права, я расцениваю указанные факты оказания давления как совершение преступления против конституционных прав и свобод человека и гражданина.

Избранные формы и методы угроз и запугивания членов инициативной группы уже на начальной стадии избирательной кампании свидетельствуют только об одном: исполнительная власть против проведения честных, открытых и справедливых выборов.

Являясь не на словах, а на деле приверженцем честных, открытых и справедливых выборов, настоящим заявляю, что я и в дальнейшем не намерен оставлять без внимания ни одного факта неправомерных действий по отношению ко мне и членам моей инициативной группы.

По каждому из подобных фактов я намерен использовать все имеющиеся в Республике Беларусь средства правовой защиты.

**Леонид СУДАЛЕНКО, предлагаемый группой избирателей для выдвижения кандидатом в депутаты Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь по Хойникскому избирательному округу № 49.**

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# Каб не застацца ў горкай самоце

*Чытаючы ў "Народнай волі" матэрыялы дыскусій, у якіх закранаецца прапанова КХП-БНФ байкатаваць парламенцкія выбары, прыгадваю сваё першае ўражанне ад разгорнутай публікацыі З.Пазьняка на гэтую тэму. Прызнацца, я не дужа вялікі прыхільнік гэтага чалавека, але падумалася: як выдатна было б, калі б ягоную прапанову прынялі! Ого, уявіць варта — стопрацэнтны байкот! То была б сапраўдная параза халуйскіх улад. Тады ім засталося б адно: пысыпаць свае звальцаваныя рэжымам галовы і сысці ў цень, каб меней хто бачыў.*

А ці ж гэтак будзе? Пры першым аналізе ўяўная карціна пачала жорстка рушыцца, бляknуць... Да каго заклік дойдзе і каго пераканае пры абмежаванасці сродкаў масавай інфармацыі ў руках апазіцыі?.. Значыць, гэта будзе зварот пераважна да саміх сябе, каб сіламі апазіцыі байкатаваць выбары. Па-другое, наш працоўны люд (па прычыне ўсялякіх прэзідэнцкіх указаў, рэформ, ідэалагічных рамак, кабальных працоўных дамоў ці кантрактаў, урэшце — жабрацтва) ператвораны ў прыгонны, і тут, ведаеце, мы справу маем не толькі з сялянствам... Таму, калі да часткі насельніцтва і дойдзе заклік аб байкоце і будзе ёй, гэтай часткай, успрыняты як належнае, то нашы людзі ўсё роўна не змогуць выявіць (рэалізаваць) сваю волю.

Пры абвешчаным байкоце чыноўнікі, улады, кіраўнікі прадпрыемстваў атрымаюць загад пастроіць працоўных у калоны і дружна рушыць на выбарчыя ўчасткі (я трохі ўтрырую), а там — не мае значэння, за каго і як яны прагаласуюць, бо вызначаць вынікі галасавання будуць не выбаршчыкі і нават не тыя, хто (паводле Сталіна) падлічвае галасы, а толькі той, хто піша пратаколы. Бачыце, якая наша ява, гары яна гарам!

Дык што зменіцца ў выпадку, калі малакольканая апазіцыя не пойдзе на выбарчыя ўчасткі? А нічога. Але гэта яшчэ больш развяжа рукі махлярам ад выбараў. Таму я цалкам згодзен з пазіцыяй Ю.Хадыкі па закранутых пытаннях: *"Байкот — двухбакова небяспечная зброя... А добраахвотная самаізаляцыя апазіцыі ў выніку чарговага байкоту робіцца смяротэльна небяспечнай" («НВ» за 21.08.04).*

І яшчэ. У публікацыі Хадыкі залатой іскаркай прамільгнула думка: сапраўды, калі нехта адчайны рашыцца на рэферэндум, сумяшчаючы яго з выбарамі, то ўдзел кандыдатаў ад апазіцыі ў выбарчай кампаніі дасць ёй магчымасць па самым вялікім рахунку адрэагаваць на праяву артадаксальнага валюнтарызму і безадказанасці.

Словам, з усіх нашых разважанняў вынікае, што кіраўніцтва КХП-БНФ у сваіх навязлівых прапановах не мае грунту — ані. Таму дзеля агульных інтарэсаў Айчыны я гатовы прапанаваць гэтай партыі не заставацца ў гордай і горкай самоце на памылковай платформе, а далучыцца да тых, хто ўдзельнічае ў жыцці і робіць па меры сіл сваіх грамадскае жыццё. Я гэта — шчыра і заклапочана.

**Васіль ЯКАВЕНКА, пісьменнік.**

